№ 58 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 58 (253). Год III. Вільня, 26 ліпня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 25 ліпня.

**Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: Між Букуа і Эбітэрн вячэрнае наступленьне непрыяцеля адбіто.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Між Суассон. і Рэймс баевая чыннасьць учора зьменшылася. Між Урк і Рэймс непрыяцель вёў заўзятые мясцовые атакі, каторые адкінуты контратакамі.

---

ЛОНДОН (В.Т.Б.). Рэўтэр публікуе ўрадовую ноту з зьместам умовы Англіі, Францыі, Злучэных штатаў і Мурманскага акружнага савета аб „абароне Мурманскай зямлі ад нямецкай коаліцыі. У ўмове кажэцца аб наборы рускіх самахвотнікаў у войскі саюзьнікаў і аб арганізацыі расейскага войска пад расейскім начальствам. Саюзьнікі абецаюць у меру магчымасьці дастаўляць жыхарам Мурмана ядомые рэчы і іншые тавары, а таксама памагаць грашыма мурманскаму савету (радзе). Умова мае мэту абараніць Мурманскую зямлю для вялікай адзінай Расеі.

РОТТЭРДАМ. Пад прэзэствам імпэратара было апрычоннае засэданьне японскай дзержаўнай рады, каторае прызнало добрымі крокі, праектаваные ў Сібіры. Часовы ўрад у Владывастоку зьвярнуўся да саюзьнікаў з нотай, у каторай просіць супольнага наступленьня.

МАСКВА (Б.Т.В.). Чэхі сабралі на дарозі Кацярынбург-Чэлябінск вялікіе сілы, прад каторымі чырвоная армія адступіла.

ХАРБІН (Рэўтэр). У ваколіцах Нікольска 4.000 казакоў злучыліся с Хорватам. Ждуць конвэнцыі між генэралам Хорватам і чэхаславакамі.

КОПЭНГАГА. Прэдстаўнікі Фінляндыі на фінляндзка-маскоўскіх мірных перэгаворах паехалі ў Бэрлін. Перэгаворы ёсьць, згодна з жаданьнем расейскага (маскоўскага) ўраду ня ў Рэвелі, але ў Бэрліне. Нямецкіе газэты гэтую вестку пацьверджаюць і пішуць, што грозячые Расеі і Фінляндыі на Мурманскім беразе пляны саюзьнікаў вызвалі жаданьне весьці перэгаворы ў Бэрліне.

МАСКВА (П.Т.А.). Рэгулярная армія ўраду саветаў даходзіць цяпер 400.000 тысяч чэлавек. Чуткі быццам латыскіе стральцы адзіная абарона ўраду саветаў не праўдзівы, яны даходзяць толькі 20 часьці ўсей савецкай арміі.

МАСКВА (В.Т.Б.). Пяты зьезд саветаў аб'явіў Туркестан за саюзную з Расеей рэспубліку і выбраў 11 магамэтан у савецкі спаўніцельны савет. Рэспубліка абнімае абласьці: Сямірэчэнскую, Сырдарінскую, Фэрганскую, Самаркандскую, Закаспійскую, Хіву і Бухару. Проці Дутова і іншых контрэвалюцыанераў учынены крокі.

МАСКВА. Архівы англіцкага пасольства вывезены з Валогды.

Вітэбская камісія дзеля барацьбы с контррэвалюцыей загадала высяліць усіх паноў у поясе ля дэмаркацыйнай лініі на 150 вёрст шырокім.

У Наўгародзкай губэрні с прычыны нестачы прадуктаў узьняліся разрухі.

КІЕУ (В.Т.Б.). Грузінскіе войскі йдуць уздоўж Чорнага мора на поўнач. Гагры ўзяты.

КЭНІГСБЭРГ. Прыбыўшая з Украіны тэхнічная камісія адбыла ў тарговай палаце нараду с прэдстаўнікамі асьвядомленых кругоў аб магчымасьці правядзеньня воднае дарогі між Чорным і Балтыцкім морам.

БЭРЛІН. Страты ворагаў пры апошнім вялізарным наступленьні — вялікшые, чым пры даўнейшых. Глаўны цiжар іх выпаў на Францыю. Восьмую італьянскую дывізію можна лічыць зьніштожэнай.

ГААГА. Пасьля расстрэлу цара адбылося многа арэштаў між вышэйшай расейскай арыстакрацыей. Іншые з вялікіх князёў разам з вышэйшым духавенствам пачалі вялізарную прапаганду проці саветаў.

БУКАРЭШТ. Сьледам за назначэньнем у Букарэшт украінскага консула гэтымі днямі едзе ў Ясы ўкраінскі дыплёматычны кур'ер, каб завязаць дыплёматычные зносіны.

СОФІЯ. У Боўгарыі ад 10 ліпня заводзіцца агульная прымусовая памочная служба.

БЭРЛІН. Сын вялікага князя Міхаіла шчасьліва вывезен у Данію і знаходзіцца ў замку дацкага караля ў Копэнгагене.

ВЕНА. Тайны райчы Гусарэк назначэны аўстрыяцкім міністэрпрэзыдэнтам.

ЦЕНЬ-ЗІНЬ (Рэўтэр). Кітайскі ўрад пастанавіў прыняць учасьце ў умешаньні саюзьнікаў у Сыбір.

ЦЮРЫХ. Перад вышэйшым швайцарскім судом абвінавачэны цяпер некалькі тэлеграфных чыноўнікаў. Іх вінавацяць у выдачы аўстрыяцкіх і нямецкіх ваенных тэлеграм італьянскаму ваеннаму агенту ў Бэрне.

ЖЭНЕВА. Французкае ваеннае міністэрства наказывае, што французкае наступленьне вядзецца пад камандай генэрала Тайёля.

ФРАНКФУРТ. Аб развіцьці тэлеграфу бяз дроту ў апошнім часе сьведчыць наказ, што тэлеграмы бяз дроту, падаваные на ст. Науэн пад Бэрлінам, прымаюцца ў Новай Зеляндыі, значыць на адлегласьць 19,300 кіл.

---

*Вільня, 26 ліпня 1918.*

Яшчэ некалькі дзён — і скончыцца чацьвёрты год вялікае сусьветнае вайны.

Горка расчараваліся ўсе тые, хто думаў, быццам гэта вайна можэ скончыцца ў некалькі месяцаў. Год ідзе за годам, а кожын з іх—цяжэйшы за папярэдні, і цяпер—на парозе пятага году вайны—мы ўсё яшчэ ня можэм нічога пэўнага прарочыць аб міры.

Людзі шмат кажуць аб тым, чаго асабліва горача жадаюць. Гэтак і з гутаркамі об міры: восьжэ ізноў па газэтах сустрэчаем весткі, быццам нэўтральные дзержавы маняцца зрабіць мірнае прэдлажэньне ваюючым старонам. Ці гэта—праўда, а, калі праўда, ці з гэтага ўрэшці выйдзе нешта сур'ёзнае, сказаць нема магчымасьці. І за пацеху можэ служыць адно думка аб тым, што не адным толькі аружжэм разьвязываюцца споркі паміж народамі.

Вайна—гэта толькі прадоўжэньне дыплёматыі: дзе словы і доказы розуму не маюць ужо сілы, там выступае на сцэну аружжэ. Але ў канцы падыходзіць момэнт, калі аружжэ само апускаецца, калі далейшая аружная барацьба становіцца дарэмнай—і з гэтага пагляду—бязцэльнай. Вось, тады нанова выступаюць дыплёматы, якіе павінны пільна сачыць за кожным здарэньнем на палёх бітв, пільнуючы, каб вайна не зацягнулася ні на адзін лішні момэнт, каб не палілася ні адна лішняя кропля крыві.

Ці ў сучаснай вайне гэты момэнт ужо настаў? Мы думаем, што так. Мы ўжо чулі прамовы палітычных кіраўнікоў ваюючых старон: у іх як адна, так і другая група дзержаў высказывала свой пагляд на тые асновы, на каторых можна было бы прыступіць да павароту міра. І хоць у паглядах цэнтральных дзержаў і варожай ім коаліцыі ўсё яшчэ знаходзім абсалютна непрымірымые пункты, — усё-ж такі самы факт заяў і выступленьняў гасударственых мужоў Нямеччыны, Англіі, Францыі, Амэрыкі і інш. паказывае, як насьпела ўжо патрэба міра для ўсіх.

Бязспорна, грунт для міра ўжо ёсьць,—аднак, настраеньне кіраўнічых кругоў ваюючых дзержаў не дае ступіць кроку ўпярод па дарозе да міра. І толькі якіесь новые здарэньні з вонку маглі-бы зьмяніць лішне ўжо запанаваўшый усюды ваюючы дух. Да гэткіх здарэньняў належаць: выпадкі на ваенным фронце і ў унутрэным жыцьці ваюючых гасударств,—як гэта ўжо паказала Расея. І мы думаем, што такая ці сякая разьвязка новай барацьбы на заходнім ваенным тэатры, асабліва-ж разьвязка «у нічую» павінна будзе нам паказаць, ці доўга йшчэ народам прыдзецца пакутаваць с тае толькі прычыны, што іх дыплёматы не здалелі злавіць і выкарыстаць адпаведные дзеля мірных крокаў момэнты.

---

## «Адбудова Расеі».

Пад той час, як большэвіцкая палітыка вядзе Расею па дарозі поўнага руйнаваньня яе ўнутрэнага жыцьця, контррэвалюцыанеры рознае масьці дзеля завядзеньня ладу ў Расейскай дзэржаве зазываюць у яе чужацкіе войскі—англіцкіе, французкіе, японскіе. Яно ясна, як Божы дзень, што мэты англічан, японцаў і іншае «коаліцыі» не маюць нічога супольнага з ідэаламі і задачамі расейскага народу: яны проста хочуць умацаваць сваё панаваньне ў Расеі, а Японія дык зусім адкрыта кіруецца да таго, каб забраць у свае рукі ўсходнюю часьць Сібіру. Гэтак помач «коаліцыі» расейцам павінна быць аплачэна вельмі дарагой цаной,—такой дарагой, што ад яе адступаюцца ўжо нават самые шчырые прыхільнікі старых саюзьнікаў сваіх—кадэты.

Мілюкоў, Вінавэр і ўвесь кадэцкі цэнтральны камітэт перэбраўся ў Кіеў, дзе вядзе перэгаворы с сваімі ўчорашнімі ворагамі — немцамі. У Кіеў зьеджаюцца чысьленые дэпутаты ўсіх чатырох расейскіх гасударственых дум і, як наказываюць газэты, маняцца аб'явіць свой зьезд за ўстаноўчы сэйм усяе Расеі. Тут-жэ, у Кіеві, Мілюков праектуе ўтварыць новы цэнтр упраўленьня Расеей.

Перанос цэнтру палітычнае работы расейскіх лібэралаў у Кіеў прыадкрывае крыху завесу над плянам, аб каторым у апошніх часох гаворыцца даволі многа. Плян гэты—адбудаваць вялікую і дужую Расею праз Украіну і Беларусь, дабіўшыся перш дабравольнага падчыненьня Беларусі гэтману Скоропадскаму пад фірмай «беларуска-ўкраінскай уніі». А як фізіономія Скоропадскага, як «істінно-русскаго чэловека», вядома здаўна (—не дарма «Vorwärts» называў пэрэварот Скоропадскага «вялікарускай контррэвалюцыей на Украіне»!), дык вельмі лёгка можна было-бы дабіцца ад яго прызнаньня над сабой уласьці новага расейскага констытуцыйнага монарха. Ведама, што монарх, каторы вярнуў-бы маскалём утрачэную Украіну і Беларусь, мог-бы сьмела спадзевацца добрага прыёму ў Расеі.

Акцыя Мілюкова і, наагул, кадэтаў у Кіеві ня суліць ані Украіне, ані Беларусі нічога добрага. Пытаньне толькі, ці яна дойдзе якіх-колечы рэзультатаў: кадэты, хаця да іх партыі належыць безмала ўся расейская лібэральная інтэлігэнцыя, гэта—«вялікі ваенны штаб», катораму дзеля пабеды нехватае толькі аднаго: арміі...

*І. Мелешка.*

